


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (1125) ГОД XXII БЕЛАСТОК 18 ВЕРАСНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




*І крые старажытны Драгічын у засені ліп рэшткі сваёй колішняй велічы.*




Калі вы ўзбярэцеся на Замкавую гару, падставіце твар пад сонечныя промні і глянеце на прастор магутнай ракі, тады зразумееце, што інакш як Драгічынам гэтае скрыжаванне водных і сухапутных шляхоў з усходу на захад і з поўначы на поўдзень назваць нельга было.

Іменна тут блукалі легендарныя герадотавы неўры, праходзілі з пабярэжжа Балтыйскага мора ў Прычарнаморскія стэпы ватагі ваяўнічых готаў, па бужанскай быстрыцы снавалі з поўначы на поўдзень доўгія лодкі норманаў, валэндаліся ахвочыя на здабычу атрады яцвягаў і літоўцаў, кацілася татарская крыважэрная арда, гулялі закаваныя ў

(Працяг на стар. 3)




**ВАЛЕРЫЮ УРУБЛЕЎСКАМУ**

— Сні, таварыш, аб камуне!
*Янка Купала*

Чую сэрца свае. Чую крокі свае.
Пер-Лашэз. Супакой. Разгараецца ранак.
Вунь Сцяна камунараў маўкліва ўстае.
Вось і ваш, мой зямляча, астатні прыстанак.

Я здалёку прыйшоў, шлях пачаўся мой там,
Дзе калісь вы мужнелі, удумны і юны.
Пакланіцца хачу па-сыноўскаму вам,
Генералу Парыжскай камуны.

Жменьку нашай зямлі прыхапіў я з сабой,
Той зямлі, на якой і з надзеяй, і з верай
Бой прымалі вы некалі, першы свой бой.
Быў Кастусь поруч з вамі, таварыш Валеры.

І жалезнаму Феліксу гэта зямля
І калыскаю стала, і доляй юначай.
Вы, напэўна, дагэтуль, няхай і здаля,
Часта сніце яе, мой зямляча?

Мабыць, сніцца дасюль вам і той гарадок,
У якім маці некалі вас нарадзіла,
Гарадок, што завецца здаўна Жалудок?
Хараство ў гэтай назве прытоена й сіла.

Ён цяпер, як тугі жалудок, сапраўды
Наліваецца плённаю сілай надоўга.
Што ж вам сніцца, таварыш, яшчэ праз гады?
Мабыць, сніцца жаданая вам Перамога?

Мабыць, чуеце шэлест чырвоных сцягоў,
Што схіляюць унукі па святах над вамі?..
Я вярнуся, відаць, ненадоўга дамоў,
Павітаюся з жонкаю, з дзецьмі, з сябрамі

Ды паеду яшчэ ў гарадок Жалудок.
Можа след ваш юнацкі пашчасціць знайсці там?
Абыду кожны гай навакольны й барок
І палі, што засеяны бульбай і жытам.

Дзе нязнаную сцежку, дзе песню знайду.
А за клопат мяне ўзнагародзіць дарога:
Па слядах я такой маладосці прайду,
Што зраблюся і сам маладзейшым намнога.

**Аляксей Зарыцкі**



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

Аляксандра Бонкард з Нараўкі. На цэнтральным аглядзе заняла трэцяе месца ў групе салістаў у катэгорыі фальклорнай песні. Фота К. Свідэрскага.



## Беларуская кніга на Беласточчыне

Дзякуючы вялікім дзяржаўным фінансавым сродкам і няспыннай дбайнай працы цэлай арміі бібліятэкараў ва ўсіх публічных бібліятэках Беласточчыны ў пачатку бягучага года знаходзілася да выбару чытачоў аж 1 мільён 531 тысяча кніг, гэта значыць, прыходзілася амаль па 11 кніг на аднаго чытача. Што ж, колькасць не малая, ёсць з чаго выбіраць!

А як выглядае справа з кнігамі на нашай роднай беларускай мове?

Адразу трэба заўважыць: на жаль, не надта прыгожа... Бібліятэкі, у якіх знаходзяцца беларускія кнігі, засяроджаны на тэрыторыі паміж Саколкай на поўначы і Мельнікам на поўдні, Семяноўкай на ўсходзе і Заблудавам на захадзе. Такім чынам, яны сваім абсягам не ахопліваюць усяе тае тэрыторыі Беласточчыны, на якой насельніцтва размаўляе на беларускай мове. Па-за ўздзеяннем гэтых бібліятэк знаходзяцца значныя беларусамоўныя абшары, напрыклад, гміны Гродзіск, Засцянкі, Супрасль, Кузніца, Дуброва Беластоцкая і інш.

Колькасць беларускіх кніг у бібліятэках на Беласточчыне, праўду сказаўшы, проста мізэрная — усяго каля 19 тысяч тамоў (!). На аднаго чытача, што цяпер пазычае ў бібліятэцы беларускія кнігі, прыходзіцца іх усяго 5,4, гэта значыць, удвая менш, чым наогул кніг на аднаго чытача ў нашым ваяводстве. Як бачым, выбар іх вельмі малы, а ў многіх мясцовасцях ён зусім марны. Загляньма на полкі хоць бы некаторых бібліятэк. У Вярхлессі на Сакольшчыне сярод 3 278 тамоў толькі 74 кнігі на беларускай мове і 260 чытачоў, у Юшкавым Грудзе гм. Міхалова на 7 492 тамы 402 на беларускай мове і 576 чытачоў, у Гацьках гм. Бельск 501 беларуская кніга на 325 чытачоў, у Пасынках тае ж гміны 517 кніг на 251 чытача і г.д. Не дзіва, што шмат якія беларускія кнігі проста зачытаны да дзірак. Я сам трымаў у руках у бібліятэцы ў Нарве зборнік „Беларускія народныя казкі“ да такой ступені зацёрты і замусолены пальчыкамі маленькіх чытачоў, што цяжка ўжо пазнаць літары і разгледзець малюнкі. Беларускія кнігазборы найчасцей складаюцца з выпадкова трапіўшых туды кніг. Яны амаль нідзе не прадстаўляюць сабою хоць бы больш-менш нейкай цэласці, у якой знаходзіліся б самыя выдатныя творы беларускай літаратуры, нават шматтамовыя выданні параскіданы па аднаму або двух тамах па бібліятэках усяе Беласточчыны. У многіх кнігазборах няма прозы Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, М. Лынькова, У. Карпава, І. Шамякіна, а пра творы В. Быкава дык і ўспаміну ніколі не было! Тое самае з паэзіяй Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Танка і асабліва сучасных беларускіх паэтаў. Праўда, адначасова стаяць яшчэ на полках цалкам забытыя, устарэўшыя, неактуальныя тамы або кнігі, адрасаваныя да вельмі вузкага кола спецыялістаў. А з павелічэннем кнігазбораў новымі набыткамі, асабліва найбольш папулярнымі і каштоўнымі кні-

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“




# „СКВОТЭРЫ“: ЗЛАЧЫНЦЫ ЦІ АХВЯРЫ?

Калі ехаць з аэрапорта Хітроу ў Лондан, то справа ад шашы цяжка не заўважыць доўгага раду панурых шэрых трохпавярховых дамоў, пабудаваных, напэўна, яшчэ ў мінулым стагоддзі. А калі прытармазіць, то ў вочы кінецца вывешаны з акна белы плакат, на якім напісана: „Тут жывуць студэнты, якім больш няма дзе жыць“. Плакат вывесілі „сквотэры“ — так называюць тут бяздомных, якія ў пошуках даху над галавой вымушаны пасяліцца ў часова пустуючых будынках...

„Сквотэры“, з пункту гледжання буржуазных законаў, — гэта, зразумела, „злачынцы“. Бо яны робяць замах на святая святых капіталістычнага грамадства — на прыватную ўласнасць. Час ад часу ў тутэйшым друку з'яўляюцца рэпартажы аб тым, як узмоцненыя нарады паліцыі ўварваліся ў дом, заняты „сквотэрамі“, і выкінулі іх разам з нягітрымі пажыткамі на вуліцу.

І ўсё ж як у Лондане, так і ў большасці іншых англійскіх гарадоў колькасць „сквотэраў“ расце і расце. Тлумачэнне гэтаму знайсці няцяжка. Па-першае, жыллёвы крызіс на Брытанскіх астравах усё абвастраецца, і чэргі на атрыманне кватэр, якія належаць муніцыпальным органам, падаўжаюцца, як кажуць, не па днях, а па гадзінах. Па-другое, усё большая колькасць жылых дамоў прыходзіць у непрыгоднасць, а іх гаспадары, не жадаючы траціцца на капітальны рамонт, пакідаюць дамы на волю лёсу і перасяляюцца ў больш сучасныя кватэры. Па-трэцяе — і гэта па сутнасці з'яўляецца галоўным, — ашаламляльны рост квартплаты пазбаўляе мільёны англічан права на жыллё, аб якім, між іншым, англійскія законы захоўваюць поўнае маўчанне.

Колькасць англічан, якія не маюць пастаяннага даху над галавой, павялічылася за апошнія дзесяць гадоў прынамсі ўтрая і працягвае расці, гаворыцца ў нядаўна апублікаваным дакладзе грамадскай арганізацыі „Шэлтэр“, якая спрабуе дапамагчы бяздомным. Паводле даных часопіса „Нью стайтстмен“, больш як 60 тысяч англічан збіраюцца вечарам у начлежныя дамы а днём наогул не маюць прытулку. І не толькі таму, што жыллёвае будаўніцтва ў Англіі імкліва скарачаецца з-за змяншэння дзяржаўных асігнаванняў на сацыяльныя патрэбы...

Толькі ў Вестмінстэры — цэнтральным раёне англійскай сталіцы — актывісты арганізацыі „Шэлтэр“ налічылі больш як сем тысяч пустуючых жылых дамоў, якія належаць прыватным уладальнікам. А ў гэтым жа Вестмінстэры каля сямі тысяч сем'яў афіцыйна зарэгістраваны ў спісе тых, хто мае вострую патрэбу ў жыллі!

Нікольні не лепшае становішча і ў іншых раёнах краіны. У апублікаваным не так даўно ўрадавым дакладзе „Сацыяльныя тэндэнцыі“ прызнаецца, што на Брытанскіх астравах цяпер пустуе не менш як паўтара мільёна дамоў і кватэр. У той жа час толькі ў самой Англіі (г.зн. без Уэлса, Шатландыі і Паўночнай Ірландыі) больш як 25 тысяч сем'яў без асаблівых надзей чакаюць на атрыманне муніцыпальнага жылля. Што ж застаецца ім рабіць?

Пагаварыце са „сквотэрамі“ і вы пераканаецеся ў сапраўднай безвыходнасці іх становішча. Гэта не толькі студэнты з бедных сем'яў, у якіх няма грошай на аплату хаця б самага сціплага „кутка“. Так, дзяўчаты-работніцы, „якія захапілі“ даўно пустуючы домік на поўначы Лондана, расказалі мне, што адважыліся пасяліцца пад чужым дахам толькі пасля таго, як ім давялося правесці некалькі начэй у тэлефонных будках. Сям'я імігрантаў з Бангладэш не адну ноч начавала на чыгуначных вакзалах, перш чым адважылася заняць кінуты гаспадарамі домік на ўскраіне горада.

У афіцыйным дакладзе, падрыхтаваным міністэрствам навакольнага асяроддзя Англіі, бясстрасна канстатуецца, што прынамсі 20 працэнтаў „сквотэраў“ — гэта маладыя сем'і з маленькімі дзецьмі, у якіх няма надзеі на ўласны дах.

Вось хто такія „сквотэры“.

**Э. Баскакаў**



*Навучальны год пачынаецца „ўрокам мужнасці“. Ён адбываецца ў школьным музеі, дзе сабраны шматлікія матэрыялы аб жыцці Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# МАЛЕНЬКІЯ ГАСПАДАРЫ СВАЁЙ РЭСПУБЛІКІ

Сёння ў гарадах і сёлах Беларусі каля 8 тысяч вялікіх і малых школ. Сярод іх усё больш робіцца дзесяцігадовых. Рэспубліка, як і ўся краіна, паспяхова вырашае задачу ўсеагульнага сярэдняга навучання. Але савецкая школа дае не толькі дзесяцікласную і, вядома, бясплатную адукацыю, але і шмат іншага, што чалавеку патрэбна ў будучым жыцці.

Давайце бліжэй пазнаёмімся з тымі, што вучацца ў ёй сёння.

Мінская школа № 122 знаходзіцца ў новым мікрараёне са звонкай веснавой назвай — Зялёны Луг. Вакол яе і сапраўды зялёны луг, а на ім цвітуць чырвоныя кветкі — рассыпалася па двары румянашчокая дзетвара ў піянерскіх гальштуках. Хто садзіць кветкі, хто дрэўцы палівае, хто сцежкі замятае — усе заняты сваімі справамі.

— Такі няпісаны закон нашай школы, — кажа яе дырэктар Ірына Саковіч: — усё, што па сілах, вучыцца рабіць сваімі рукамі. — І вядзе мяне па тэрыторыі школы — гэтай сапраўднай рэспублікі маленькага (у даслоўным сэнсе) народу, які адчувае сябе ў ёй паўнапраўным гаспадаром.




*Беларусь — рэспубліка вялікай хіміі. Адсюль, з кабінета хіміі, магчыма, і пачнецца для гэтых дзяцей шлях на хімічныя камбінаты, у навуковыя лабараторыі.*

Вось клас. Не, гэта не проста пакой, застаўлены партамі-craламі. Гэта лабараторыя, дзе дзеці вучацца самастойна думаць і дзейнічаць. Кожны прадмет выкладаецца ў спецыяльна абсталяваным кабінеце. У адным з іх — трапіш у царства слоў, кніг, літаратурных герояў. У другім — робішся амаль удзельнікам падарожжаў вакол Зямлі. У трэцім — можаш уласнаручна паўтарыць адкрыцці вялікіх фізікаў. Тут, у класе, усё магчыма — бо на паслугах вучняў самае сучаснае абсталяванне, шмат візуальных дапаможнікаў, цяпер кабінеты абсталёўваюцца тэлевізійнымі ўстаноўкамі. А настаўнік кіруе працэсам навучання пры дапамозе аўтаматычнага пульта кіравання...

Вось сталоўка. Тут, у прасторнай, прытульнай зале ў перапынку паміж заняткамі дзеці могуць — за невялікую плату, а часам і бясплатна — смачна паесці...

Вось зала кіно — таксама свая, школьная. У вольныя дні тут збіраюцца дзеці і арганізуюцца святы кіно, сустрэчы з цікавымі людзьмі...

А вось на сцяне (нельга прайсці і не звярнуць увагі!) — каляровыя рукапісныя газеты. Іх карэспандэнты і выдаўцы — самі вучні — адлюстроўваюць усе шматлікія школьныя падзеі: вось нататка аб клубе інтэрнацыянальнай дружбы, члены якога вядуць перапіску з аднагодкамі за мяжой, вось расказ аб чарговым пасяджэнні палітычнага гуртка „Праметэй“, дзе старшакласнікі абмяркоўваюць падзеі на свеце... І, вядома, у газетах прадстаўлены вучоба і праца школьнікаў.

Так, праца ў савецкай школе заўсёды была і ёсць у пашане. Героі нашага нарыса самі ўпрыгожваюць свае класы, самі робяць шматлікія дапаможнікі для заняткаў. Самі пабудавалі спартыўную залу, цір і нават цяпліцу для вырошчвання кветак. Летам старшакласнікі працуюць у лясніцтвах і вучацца вырошчваць хлеб на палях прыгараднага калгаса. А на працягу навучальнага года, раз у тыдзень, яны пазнаюць „прамысловыя“ прафесіі — слесара, токара, радыёмантажніка, крэсляра, швачкі, прадаўца — кожны выбірае па густу. Для гэтага створаны спецыяльны навучальна-вытворчы камбінат — адзін у кожным раёне горада: там у майстэрнях вопытныя майстры вучаць дзяцей абыходзіцца з сапраўднымі фабрычнымі станкамі і самым сучасным абсталяваннем.

Нельга тут не сказаць аб тым, што ў рэспубліцы ёсць школы розных профіляў. Ёсць, напрыклад, школы, дзе больш шырока і глыбока, чым у звычайных, вывучаюцца замежныя мовы. Ёсць школы для дзяцей, здольных да матэматыкі. Ёсць школы па музыцы і выяўленчаму мастацтву. Ды і ў кожнай іншай школе вучань можа больш глыбока, чым у рамках урока, вывучаць прадмет, які яго цікавіць. Для гэтага вядуцца факультатыўныя заняткі — па хіміі, фізіцы, біялогіі. Але цікава, што кожная школа — спецыялізаваная ці звычайная, такая, аб якой ідзе мова, — выхоўвае пашану і любоў да працы.

Шанаваць працу вучаць школьнікаў і іх шэфы. Яны ёсць у кожнай школы. У 122-й мінскай шэфамі з'яўляюцца рабочыя будаўніча-мантажнага ўпраўлення і студэнты Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Яны — частыя госці ў школе. І не проста госці, а памочнікі і сябры: кіруюць рознымі тэхнічнымі гурткамі, развіваючы смак да творчасці, пошукаў, даследаванняў. Пры іх дапамозе дзеці робяць складаныя прыборы і нават змайстравалі электрагітары для свайго школьнага аркестра!

І, вядома ж, у навучанні і працоўным выхаванні вялікая роля настаўніка. Школьны настаўнік — гэта не проста добры спецыяліст. Ён настаўнік у самым шырокім сэнсе слова. Настаўнік жыцця.

— Тут расце наша змена, тут вучацца жыць, — кажуць аб школе дарослыя. — Школа — гэта, гаворачы вобразна, уся наша рэспубліка, уся наша краіна ў мініяцюры...

**С. Заяц**

Фота Э. Трыгубовіча




**Sobota — 17.IX.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. III. 7.00 Hod. zwierz. 8.55 Misja w Kabulu — fab. film radz. 10.00 Dla kl. I—III: Czer., żółte, ziel. 11.05 Dla kl. VIII: Geogr. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. I. 13.25 Mech. rol. 14.05 Red. szk. zap. 14.15 Pr. dnia. 14.20 Radzimy rol. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.00 Opowieści report. 15.30 Quiz warszawski — Przygoda na Mariensztacie — film fab. 18.00 Górale — górale — rep. 18.20 Spotkania na zamku — Dlaczego Warszawa — insceniz. pr. hist. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Marylin Monroe: Mężczyźni wolą blondynki. 22.10 Studio Interdisco przedst. 23.05 Dziennik. 23.20 Gwałt — fab. film szwedzko-franc.

**Niedziela — 18.IX.** 6.50 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. I. 7.20 Mech. rol. 7.50 Nasze spotkania. 8.05 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.30 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Samochody i ludzie — serial franc. 11.40 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Zwyczaje i obrzędy. 13.00 Bank 440. 14.05 Dla dzieci. 15.05 Sport. 17.20 Los. Dużego Lot. 17.45 Nasz program — pr. rozr. 18.45 Bank 440. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.35 Marco Visconti — odc. III serialu. 21.40 Dziś straszy — wid. poetycko-muz. 22.50 Sport.

**Poniedziałek — 19.IX.** 12.45 RTV szk. śred. Fiz. sem. III. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.20 NURT — nauki polit. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Hist. w krajobraz wpisana. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Motyle — pr. balet. 18.05 Stawka większa niż życie — serial TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV M. Dąbrowska „Łucja z Pokucic". 21.50 Camerata. 22.20 Życiorys Kraju Rad — odc. I filmu ser. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 20.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Fiz. sem. III. 7.00 Tech. Rol. Mech. rol. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III Czerw., żółte, ziel. 10.30 Mściciele — dramat hist.-przygod. radz. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. sem. I. 13.25 RTV szk. śred. Chem. sem. I. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kółko i krzyżyk. 16.45 Magazyn motor. 17.05 Studia Mł. 17.45 Interstudio. 18.20 W Starym Kinie. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Z życia wzięte — serial CSRS. 21.40 Świadkowie. 22.00 Dziennik. 22.15 Sceny myśliwskie z Dolnej Bawarii — dramat obycz. RFN.

**Środa — 21.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. sem. I. 7.00 Chem. 10.00 Dla kl. V Hist. 11.05 Dla kl. VIII: Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII: Wych. muz. 12.45 RTV szk. śred. Mat. sem. III. 13.25 Biolog. 15.20 NURT — naucz. począt. 15.40 Pr. dnia. 15.45 Obiektyw. 16.05 Dziennik. 16.15 Klub Seniora. 16.45 Los. Małego Lot. 17.00 Dla dzieci. 17.25 Sport. mecz. Polska — Dania. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmoteka Arcydzieł: Posłaniec — dramat obycz. ang. 22.40 Dziennik.

**Czwartek — 22.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. sem. III. 7.00 Biolog. 10.00 Dla kl. VI: Hist. 12.55 Dla kl. I—IV lic. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Mat. sem. I. 13.25 Biolog. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Partyzancki front. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Reportaż wojskowy. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. H. Carmichael — Czy pan nie rozumie? To pomyłka. 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 23.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. sem. I. 7.00 Biolog. 10.00 Dla kl. IV: Zabytki Warszawy. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. ob. 12.00 Dla kl. VIII: Wych. tech. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. sem. III. 15.20 NURT — ped. 16.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stad. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotor. turysty. 17.45 Cienie zanikają w południe — serial ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Film TV na świecie: Ukryty detonator — dramat obycz. jap. 21.50 Studio teatralne: B. Czeszko „Tren". 22.55 Dziennik.




**Piątek 16 IX** — 9.30 Film fab. 14.15 Film fab. 16.00 Koncert. 18.30 Śpiewa Anna German. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Hokej. Turniej międzynar.

**Sobota 17 IX** — 18.05 Koncert. 18.50 Film fab. 20.30 Koncert.

**Niedziela 18.IX** — 13.20 Film fab. 15.05 Panorama międzynar. 16.00 Filmy anim. 17.15 Klub film. 18.15 — Piosenka — 77. 19.00 Film fab. 20.30 Hokej. Czechosłowacja — ZSRR.




**Białowieża** Dzień szarańczy — USA 20—21. Sprawdzam siebie — węg. 22—23. Romantyczna angielka — ang. 24—25.

**Bielsk Podlaski** Dzień delfina — USA 20—21. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 22—23. Miłosna edukacja Walentego — fr. 24—25.

**Czeremcha** Od siedmiu wzwyż — USA 20—21. Wielki układ — pol. 24—25.

**Kleszczele** Zapamiętaj imię swoje — pol. 20—21. Karino — pol. 22—25.

**Michałowo** Gdzie się podziała siódma kompania — fr. 22—23. Mgła — pol. 24—25.

**Mielnik** Powrót tajemniczego blondyna — fr. 21. Tomcio Paluch — fr. 24—25.

**Narew** Mazepa — pol. Najlepsza w świecie — pol. 21—25.

**Nurzec** Życie dla miłości — jug. 20—21. Cyrk w cyrku — czes. 22—23. Dagny — pol. 24—25.

B.Z.Graf. Zam. 2230 B-4

 

(Працяг са стар. 1)



# ДРАГІЧЫН

зброю крыжацкія рыцары, перакочваліся натоўпы шведаў, цокала кованымі капытамі напалеонаўская конніца і сеялі смерць танкі нямецкіх захопнікаў. Многа тут было чужынцаў, ой, як многа!

І калі вы прыкладзеце вуха да схілу гары, то пачуеце з яе глыбінь не гранне званоў упаўшай у бужанскі вір царквы, дзе вянчаўся князь зямлі гэтай Даніла Раманавіч на першага і апошняга ў гісторыі караля рускага, але да вашага слыху данясецца страглае ў яе падзямеллях скрыгітанне зброі з безлічы сутычак наезнікаў, што з запечанай на губах крывавай пенай намагаліся адчыніць для сябе дарогі да ўладання над тутэйшымі людзьмі і палеткамі. Проста дзіву даешся, якім цудам на гэтай надбужанскай стрмніне ўцалела ад столькіх варожых навалаў такое мноства цудоўных помнікаў старажытнасці. Ну і ўчэпісты тут народ!..

Хоць больш у гэтай зямлі касцей чалавечых, чым польнага камення, нікому з чужынцаў не ўдалося заўладаць тутэйшымі ваколіцамі, дзе ўпрытык, пасуседску, адвечна сядзяць нашчадкі беларускага племені дрыгавічоў і польскіх мазаўшан. Так ужо спакон веку вядзецца на гэтых землях, што на межах растуць самыя буйныя, самыя разгалістыя грушы-палёўкі — жывыя сімвалы любага сэрцу кожнага славяніна працавітага спакою.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*Гэты архітэктурны цуд узвялі драгічынскія каменшчыкі і муляры ў XVIII стагоддзі.*





*Стрмніну драгічынскай Замкавай гары адвечна ліжа прагная бужанская хваля, хаваючы ў сваіх вірах каменныя рэшткі тутэйшага сярэднявечча.*



*У гэтых мурах знаходзілася ў канцы XVIII стагоддзя адна з першых на Падляшшы сярэдніх школ, якою апекавалася Камісія нацыянальнай адукацыі.*



*Паўстаўшы ў бягучым годзе цэнтр здароўя ў Драгічыне.*



# У ГМІННАГА ДЫРЭКТАРА

У бягучы 1977/78 навучальны год школьніцтва ў гміне Нараўка ўступіла ўдала.

— Упершыню ў школах не працуюць у нас настаўнікі без педагагічных кваліфікацый, — не без задавальнення сцвярджае гмінны дырэктар мгр **Яўген Валкавыцкі.** — Зразумела, што гэта дасталася нам не само. Доўгі час мы заахвочвалі настаўнікаў павышаць свае кваліфікацыі і стваралі ім да гэтага прыхільныя ўмовы. Цяпер у нас сярод 49 усіх настаўнікаў на абшары гміны 5 мае поўную вышэйшую адукацыю, 35 закончыла настаўніцкія студыі і толькі 9 асоб працуе з дыпломамі педагагічных ліцэяў, прычым 9 асоб займаецца на завочных аддзяленнях вышэйшых школ. Гэта вельмі добрая з'ява, і нам хочацца, каб яна ўсё больш пашыралася. У ёй заключаецца гарантыя таго, што для будучай 10-гадовай школы ў нас будуць ужо падрыхтаваны адпаведныя кадры. Першыя ж крокі ў ажыццяўленні рэформы асветы ў нас ужо пастаўлены — у бягучым годзе амаль усе дзеці 6-гадовага ўзросту займаюцца ў дзіцячых садах і ў групах дашкольнікаў у школах. Неўзабаве таксама пачнем абмяркоўваць на пасяджэннях гміннай рады справу будынка для будучай дзесяцігодкі, бо ў тых чатырох старых прыстасаваных для школьных патрэб хатах, дзе знаходзіцца цяперашняя гмінная зборная школа, дзесяцігадовую школу нельга будзе памясціць.

Але не толькі будучая дзесяцігодка хвалюе гміннага дырэктара ў Нараўцы. Не забыты таксама і бягучыя патрэбы школ. Вельмі спраўна прайшлі за гэтыя канікулы бягучыя рамонты школ. Коштам каля 200 тысяч злотых папраўлены і абноўлены школы ў Альхоўцы, Луцэ, Ляшуках, Семяноўцы і Скупаве, а таксама дзіцячы садзік у Нараўцы. Аднак адны рамонты не здавальняюць школьных патрэб. Наогул колькасць дзяцей на тэрыторыі гміны ўвесь час змяншаецца, за выключэннем Старога Ляўкова — у ім прыбывае штогод школьнікаў. Стары і цесны будынак не можа там даць ім адпаведныя ўмовы для навучання. Паўстала неабходнасць да цяперашняга школьнага будынка яшчэ дабудаваць чатыры памяшканні для заняткаў і кватэру для настаўніка. Тэхнічная дакументацыя для пабудовы, частка будаўнічых матэрыялаў і фундамент ужо гатовы. Гміне з дапамогай прыйшла куратория асветы і выхавання ў Беластоку, напэўна не астануцца абыякавымі таксама і бацькі, шмат можа зрабіць керамічнае прадпрыемства ў Ляўкове, дзеці працаўнікоў якога будуць наведваць гэтую школу. Самае важнае цяпер, каб знайшоўся выканаўца гэтай будоўлі. Дагэтуль не ўдалося Я. Валкавыцкаму яго знайсці і гэта яго вельмі непакоіць.

— Яшчэ важнейшыя заданні паўстаюць перад намі ў галіне сельскагаспадарчай асветы, — заўважае ён. — Праўда, дзякуючы эфектыўнай выхаваўчай працы настаўнікаў і дырэктараў васьмікласных школ нашай гміны ўжо другі год паспяхова прайшоў набор кандыдатаў у асноўную сельскагаспадарчую школу, што ў Альхоўцы, і ў ёй цяпер займаецца звыш 40 дзяўчат і юнакоў. Дзейнічае падставовая сельскагаспадарчая студыя ў Луцэ, у занятках якой прымае ўдзел 25 асоб, што за два гады вучобы здабудуць разам з поўнай пачатковай адукацыяй званне кваліфікаванага селяніна. Але гэтыя дзве формы сельскагаспадарчай адукацыі ў нашай тыпова сельскай гміне — гэта толькі пачаткі вялікай працы, што нас яшчэ чакае. Вядома — сучасная сельская гаспадарка патрабуе людзей з грунтоўнымі ведамі.

І калі чуеш усё гэта ад чалавека, які непарыўна звязаны з гэтымі ваколіцамі, набіраеш упэўненасці, што за гэтымі словамі наступяць справы. Дырэктар Я. Валкавыцкі паходзіць з гміны Нараўка, пасля заканчэння Настаўніцкай студыі ў Элку ў 1968 г. вярнуўся ў свае родныя бакі, ужо працуючы настаўнікам, завочна закончыў філіял Варшаўскай акадэміі фізічнага выхавання ў Белай Падляшскай. Дасканала ведае патрэбы і магчымасці сваёй гміны.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара




# Ой, ЯК ЖА ЧАС МЯНЯЕЦЦА!

Быў я на Ганну ў Старым Корніне і наглядзеўся ды наслухаўся. Калісьці на свята прыязджалі на драўляных вазах, пазней грукалі жалязнякамі. Моладзь ішла пешкі, толькі багацейшыя ганарыліся веласіпедамі. Сяляне з зайздрасцю гаварылі: „О, бачыш, якога Грыша „лісопэда“ купыў“. Цяпер самыя бедныя прыязджаюць на одпуст матацыкламі, а за фіятамі, шкодамі і іншымі маркамі самаходаў цяжка вуліцу перайсці. Я са сваёй сірэнкай саромеўся паказвацца, але пераканалі мяне сваякі, што пастаўлю недзе на скраі вёскі пад плотам, у цені шырокай ліпы, то ніхто на яе ўвагі не зверне. Так я і зрабіў.

А які то дурны злодзей цяпер пойдзе пешкі, як даўней, перад вайной або пасля яе? Даражэнькія, прыйшоў час, што зладзеі на сірэнкі і глядзець не хочуць. Часам толькі нейкі валакіта каўпакі пазрывае з колаў, але ж гэта не злодзей, навічок. Або той, што ў Карыцісках „іжа“ ўкраў, гэта злодзей? Гэта проста самазванец! О, няхай грабавецкія людзі раскажуць, якія да іх зладзеі прыязджаюць, аж хочацца паслухаць. Дагэтуль, значыць, у Грабавец на горшым, чым „Фіят-125“, ніхто і не паявіцца. Не верыце? Яй-богу, праўда!

Паміж залацістым збожжам сцелецца стужка асфальтавай шашы, па якой урачыста рухаецца „Фіят-125“ яснага колеру. З боку Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэляў. Затрымаўся ў пачатку вёскі. Выйшлі з яго дзве маладыя жанчыны і пайшлі ў вёску „калядаваць“ па хатах з „загранічнымі“ блузкамі. Мелі іх, праўда, па адной, але ж гэта ўжо пропуск у хату. Уваходзілі на панадворак і пыталі, ці ёсць хто ў хаце. Калі заставалі кагосьці, прапанавалі прадаць блузкі, але цану вызначалі такую, што ніхто блузак і ў рукі не браў. А калі нікога не заставалі, уваходзілі таксама, але з мэтай праверкі, ці не забагаты гаспадар. Правяралі шафы і іншыя шафачкі. Знайшоўшы каштоўнасці і грошы, канфіскавалі.

У той час мае сваякі Іван з Гандзяю і Полік з Ганнаю касілі жыта. Іван з Гандзяю над шашою, а Полік з Ганнаю ля гасцінца, які вядзе да шашы, значыць у сябе за стадолаю. Усе яны глядзелі, як на шашы памаленьку шпацыраваў ясны фіят. Іван надта любіць жарты і да жонкі кажа: „Дывысь, Гандзя, комусь надоело сыдыеты за столом у бюрові, то прыехаў побачыты господарськім оком, як мы тут справляемся“. У той самы час Полік да Ганны: „Бач, халера, чоловіек працуе, аж пуот очы залівае, а якійсь гультаіско собіе по шосые спацэруе і то шчэ самоходом, коб ногі нэ заболіелі“.

„А што такому пановы, — прадаўжала Ганна, — вуон мае самоход, то собіе йездыт. У ёго ужэ нэ туолькі скошанэ, але і спэчанэ. Вуон мае ўсё готовэ, нэ так, як мы, мужыкі“.

(Працяг на стар. 5)



 

(Працяг са стар. 1)




гамі, справа зусім дрэнная. Перш за ўсё гэта таму, што ў кнігарні Беласточчыны з кожным годам трапляе ўсё менш кніг на беларускай мове, а ў бягучым годзе новыя паступленні можна нават палічыць на пальцах! Асабліва балюча адчуваецца нястача кніг для дзяцей і выданняў, разлічаных на шырокае кола дарослых чытачоў. Па гэтай, між іншым, прычыне ў 1976 г. беларускія кнігазборы ў бібліятэках папоўніліся ўсяго 400 новымі кнігамі (!). Не абышлося тут і без звычайнай нядбайнасці, бо калі Бельская гарадская бібліятэка для свайго раёна набыла 278 кніг, то ў той жа час Сакольская гарадская бібліятэка „размахнулася" на куплю 2 (слоўна: дзвюх) кніг!..

З папулярызацыяй чытальніцтва беларускіх кніг таксама далёка не ўсё ў парадку. Найбольшым зацікаўленнем кніга на беларускай мове карыстаецца ў раёне дзеяння Бельскай гарадской бібліятэкі (абшар ад Зубкоў на поўначы да Орлі на поўдні і ад Семяноўкі на ўсходзе да Заблудава на захадзе, за выключэннем горада Гайнаўкі). Там знаходзіцца 12 724 тамы беларускіх кніг і 3 081 іх чытач, у 1976 г. было 14 456 пазычанняў гэтых кніг. Але і ў гэтым раёне заняпала чытальніцтва ў Залуках гм. Гарадок, Ялоўцы гм. Міхалова, паслабела ў гмінах Нарва і Нараўка. Слабенька прадстаўляецца яно ў раёне дзеяння Сямяціцкай гарадской бібліятэкі: цалкам заняпала яно ў Бацíках гм. Нурэц, Баратынцы гм. Сямяцічы, Сямяцічах, Мельніку, Мілейчыцах і інш. Цалкам дрэнна яно стаіць у раёне дзеяння Сакольскай гарадской бібліятэкі, дзе ледзь ліпіць толькі ў гміне Шудзялава, а заняпала на абшары гмін Крынкі, Супрасль, Саколка. Нават у бібліятэках горада Саколкі няма ніводнай кнігі на беларускай мове...

Гэтая жменька выбраных фактаў аб сучасным стане чытальніцтва беларускай кнігі на Беласточчыне павінна стаць сігналам да дзеяння шэрагу ўстаноў і арганізацый, а перш за ўсё адказных працаўнікоў за пашырэнне кніг сярод нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры і мастацтва, Ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку, а таксама і ўсіх членаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. З такім станам чытальніцтва кніг на нашай роднай беларускай мове нельга пагадзіцца...

**Мікалай Гайдук**

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**губа** — няпэўная мера, роўная даўжыні ўнутранай часткі сцяны хаты. Мерылася ёю даўжыня асновы. А я лоні шыснаццэть гуп выткала, то й хватіт. Вжэ сёголіта і вэрстату нэ вносіла.

**гуор** — каляровыя ніткі для вышывання. Зноў дэсь хтось гуор спратаў. Хотіела куончыті вышыване, а гуору найті нэ могу.

**кіцікаті** — казытаць. Пэрэстань кіцікаті! Знаеш жэ, што я кіцікавкі боюся.

**стульніця** — спецыяльная дошчачка, на якой рэжуць сала, цыбулю, мяса. А дэ то наша стульніця? Скварок трэба врыэзаті, а нэма на чуом.

**стрыэні** — дваюрадны. Іван і муой Валодька то стрыэні браты. І то пэрша стрыэнь.

**(Трашчоткі, гміна Бельск)**



*„Бізоны" працуюць.*

# СКР—АЎСКАЕ ЖНІВО

З-за дажджлівага лета спазнілася сёлета жніво і, як ніколі, намучыла і нанервавала людзей. Кожную пагодную часіну выкарыстоўвалі яны, каб зжаць жыта, пасля пшаніцу, ячмень, авёс, кармавыя мяшанкі, а ў самым пачатку лета — рапс.

У шудзялаўскай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, якая мае сядзібу ў Паўночным Востраве, да жніва збожжа выйшла 39 снопавязалак, 10 камбайнаў „Бізон" і 7 камбайнаў „Вістуля". Гэтымі машынамі зжата ў гаспадароў 3400 га збожжа і 1230 га збожжа ў сябе, на калектыўнай гаспадарцы, якая існуе пры шудзялаўскім СКР-ы. У гэтым жніўным перыядзе давялося цяжка папрацаваць і кіраўніцтву СКР-у на чале з дырэктарам Збігневам Залеўскім, і тым рабочым, якія беспасрэдна працавалі пры машынах.

Як сцвярджае дырэктар З. Залеўскі, шчырая падзяка належыцца за самаахвярную працу наступным асобам: працуючым на снопавязалках — Віталю Пракопчыку, Вацлаву Жынелю, Уладзіміру Кузьме, Віталю Яцэвічу і Рамуальду Панасюку, камбайнёрам — Тэадору Каранецкаму, Станіславу Башко, Івану Грыбку, Аляксандру Шуткевічу і Віталю Аўхімюку. Не мелі яны свабодных нядзель, працавалі падчас пагодных дзён столькі, колькі гэта было магчыма.

Калі гаварыць пра шудзялаўскі СКР, дык неабходна сказаць і пра калектыўную яго гаспадарку, якая мае шмат дасягненняў у адкорме свіней. Да адкорму свіней ёсць там 1300 месц. СКР распачаў і прадукцыю парасят. Не так даўно закуплена 25 мацёраў. Апрача таго, авечкагадоўля (1600 авечак) дае шмат даходу СКР-у і шмат мяса і воўны дзяржаве. У найлепшыя агратэхнічныя тэрміны, да 20 жніўня, было пасеяна 42 га рапсу, а да 25 верасня будзе пасеяна 860 га жыта. Зразумела, што ў гэтым часе будуць праводзіцца паслугі для ўсіх гаспадароў у гэтым СКР-аўскім раёне.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



*Дырэктар СКР-у Збігнеў Залеўскі.*

# ХТО НАЙБОЛЬШ У СКУПАВЕ?

Шосты год працуе зборшчыцай малака ў вёсцы Скупава (гміна Нараўка) Марыя Такарук. Наведалі мы яе ў канцы жніўня гэтага года. У той дзень мясцовыя сяляне даставілі на пункт скупкі 715 літраў малака. Найбольш Вольга Нічыпарук (34 літры малака), Рыгор Сіняковіч (31 літр) і Васіль Ахрыцюк (28 літраў). У сярэднім па 20-23 літры прывезлі Людміла Адамовіч, Міхал Дрозд і Марыя Дрозд.

Рыгор і Вольга Нічыпарукі гадуюць пяць кароў і двое цялят, у тым ліку тры дойныя. Восенню будуць даіць чатыры. З кармамі не маюць клопатаў. Летам каровы пасуцца на выгане ля дома, а на зіму ім нарыхтоўваюць дастатковую колькасць сена, кармавых буракоў і бульбы. Усе каровы ў іх добра дагледжаныя, таму ў іх хапае малака і на продаж, і на свае хатнія патрэбы. У Рыгора і Вольгі Нічыпарукоў мураваная (з пустакоў) абора. Яны хочуць купіць сабе даярку, каб толькі можна было дзе яе дастаць. Бо намераны яны гадаваць больш кароў.

Рыгор Сіняковіч і Васіль Ахрыцюк жывуць па-суседску. Маюць па тры дойныя каровы і крыху маладняку. Пасбішчы ля хаты. У іх задбаныя хлявы.

Васіля Ахрыцюка застаем у полі. Ён развязвае снапы аўса, каб хутчэй прасушыць яго на сонцы. Гаспадар знаёмы з намі. Былі мы ў яго пару гадоў таму назад, рабілі яму здымак. Гэта быў ужо другі візіт. Васіль Ахрыцюк мае больш зялёных угоддзяў, чым ворнай зямлі. І на месцы. Гэта ад часу ліквідацыі цераспалосіцы. Таму ён намераны купіць яшчэ адну карову для гадоўлі. Не можа нахваліцца тымі, што мае. Асабліва ўдалыя бываюць цяляты.

— З вясны насіў я больш малака — 30 літраў і больш, — кажа В. Ахрыцюк, — але зараз каровы будуць цяліцца. Ад адной з іх спадзяюся прыбытку ў пачатку кастрычніка.

Знайшлі мы крыху часу на разважанні. Варта дадаць, што каровы спамянутых сялян са Скупава даюць высакаякаснае малако. У ім 3,9 — 4% тлушчу. Калі і далей будуць такія спрыяючыя ўмовы продажу малака, тады ўсе сяляне ўжо на будучы год будуць гадаваць не менш як па пяць, а то і больш дойных красуль, у тым ліку палавіну з іх нізінна чорна-белай пароды. Дагэтуль па адной карове пароды „нцб" маюць і Вольга Нічыпарук, і Рыгор Сіняковіч, і Васіль Ахрыцюк. Добрыя гэтыя каровы і ў сэнсе малака, і мяса.

Калі ідзе гаворка пра Р. Сіняковіча, дык дадамо, што гэта малады гаспадар з перспектывамі на будучыню. Нядаўна купіў ён сабе новы трактар. Пад сілу яму гадаваць значна больш кароў, чым дагэтуль.

І яшчэ адно. Пад развагу гмінным уладам. Варта падумаць пра меліярацыю скупаўскіх сенажацяў. Тады і надоі куды павялічыліся б, і скупаўчане пачалі б больш думаць пра даяркі, пра механізацыю абораў, пра абсталяванне кранаў з вадою ў хаце, але таксама і паілак у аборы. **Я. Цялушэцкі**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XXXVIII

**Заканчэнне.** Развіццё літаратурнага таленту Гарэцкага ў дакастрычніцкі перыяд характарызавалася выключным дынамізмам. На працягу некалькіх гадоў стварыў пісьменнік вялікую колькасць апавяданняў і п'ес. Варта адразу заўважыць, што ў сэнсе мастацкай якасці п'есы Гарэцкага рашуча ўступаюць яго апавяданням. Аднак і ў малых празаічных формах, і ў сцэнічных творах выступаюць аналагічныя рысы. Належаць да іх: гістарызм, адраджанізм, зацікаўленне жыццём вёскі, глыбокі псіхалагізм, факталогія. Гарэцкі быў тыповым пісьменнікам-нашаніўцам. Усе характэрныя рысы ідэалогіі „Нашай нівы" ў нейкай ступені адлюстраваліся ў творчасці Гарэцкага. З другога боку ідэі прозы Гарэцкага ўплывалі на ідэалогію часопіса. Гарэцкі быў пісьменнікам гордым. Няма ў яго творчасці нацыянальнага комплексу ці сервілізму. Цвёрда стаяў ён на грунце эмансіпацыі беларусаў, іх поўнай роўнасці з суседнімі і іншымі народамі. Гарачы патрыятызм Гарэцкага не пераходзіў у нацыяналізм, ніколі пісьменнік гарачай любві да свайго народу і краіны не спалучаў з нянавісцю да іншых народаў і іншых краін.

Гарэцкі быў галоўным чынам пісьменнікам сялянскага лёсу. Сялянская рэчаіснасць адлюстравалася ў яго творчасці ў аспекце гістарычнага мінулага і сучаснага.

Гістарычнае мінулае паказваў пісьменнік, як правіла, у аспекце адносін паміж сялянамі і панамі. Гарэцкі не ідэалізаваў старой феадальнай эпохі. Наадварот, імкнуўся да таго, каб паказаць тыя яе праявы і факты, якія сведчылі аб крайняй жорсткасці паноў і феадалаў, аб іх амаральнасці, аб іх нацыянальным чужацтве. Толькі ў рэдкіх апавяданнях гаворыць пісьменнік аб постацях феадалаў, якія змагаліся за незалежнасць роднай зямлі.

У творчасці Гарэцкага знаходзім надзвычай цікавую карціну сучаснага пісьменніку сялянскага жыцця. Ведаў ён дасканала ўсю яго спецыфіку. Дзякуючы гэтаму мог свае творы папоўніць грамаднаю колькасцю фактаў і дэталяў. У створанай Гарэцкім карціне вясковай рэчаіснасці не многа прывабнага. Пісьменнік найчасцей звяртаецца да фактаў адмоўных, да ўбоства вясковага побыту, да штодзённых нястач і клопатаў.

М. Гарэцкі паказвае ў сваіх апавяданнях розныя катэгорыі сялян. Бачыў у іх дзяцей, моладзь, жанчын, дарослых мужчын і старых жыхароў вёскі. У яго творах выступаюць, апрача сялян, вясковыя настаўнікі, чыноўнікі, духоўныя. Можам гаварыць, што дакастрычніцкія апавяданні Гарэцкага гэта панарама сялянскага жыцця, напоўненая праўдай і аўтэнтызмам.

Арыгінальнасць творчасці Гарэцкага праявілася, між іншым, у тым, што ён першы сярод беларускіх пісьменнікаў паказаў складаны працэс пераходу прадстаўнікоў сялянскай моладзі ў інтэлігенцкі стан.

У адрозненне ад іншых беларускіх пісьменнікаў-нашаніўцаў, якія, ілюструючы сялянскі побыт, выкарыстоўвалі часта гумарыстычныя матывы, у творчасці Гарэцкага амаль цалкам адсутнічае гумар.

Бадай найбольш істотнай рысай дарэвалюцыйнай прозы Гарэцкага быў яе глыбокі псіхалагізм. Пісьменніка не цікавілі апісанні героя, але яго споведзь. Імкнуўся ён пранікнуць у душу чалавека, заглянуць у яго падсвядомасць, зразумець яго інстынкты. І тут зноў можам гаварыць аб арыгінальнасці прозы Гарэцкага на фоне тагачаснай беларускай літаратуры.

Няма сумненняў, што Гарэцкі-празаік выбраў арыгінальны шлях, арыгінальны стыль, арыгінальны спосаб ілюстрацыі чалавека і акружаючай яго рэчаіснасці. І таму можам сказаць, што дарэвалюцыйная проза Гарэцкага мела рэвалюцыйны характар.




## ВАСІЛЬ ТАРАНТА

У праўленні сельскагаспадарчага кааператыва ў Старым Корніне аб ім можна пачуць вельмі часта: „Вася Таранта — чалавек з залатымі рукамі. Няма нічога такога ў сельскагаспадарчай тэхніцы, у чым бы ён не разбіраўся. Не будзь яго, машынна-трактарны парк не стаяў бы на высокім тэхнічным узроўні“.

В. Таранта паходзіць з вёскі Мора, адслужыўшы ў арміі, вярнуўся працаваць у свой кааператыў, у якім добра зарабляе і якому сам прыносіць вялікую карысць. Ён з'яўляецца галоўным майстрам па рамонту ўсіх сельскагаспадарчых машын. Ці трактар „Урсус“, ці „Беларусь“, ці камбайн „Бізон“, ці малацільны агрэгат, або іншая машына ці прылада, Вася Таранта давядзе яе да тэхнічнай спраўнасці.

Кажуць кааператыўшчыкі ў Старым Корніне (гміна Дубічы Царкоўныя), што ў ПОМ-ах, галоўным заданнем якіх з'яўляецца рамонт сельскагаспадарчых машын, такіх таленавітых людзей не часта сустрэнеш.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**




### КУР'ЁЗЫ З МЫШКАЙ

## СМЕХ І ПЛАЧ

Больш паўвеку таму назад віленская газета „Крыніца“ (№ 12 ад 6.6. 1920 г.) змясціла наступную карэспандэнцыю нейкага Тараса з Ліпска былога Аўгустоўскага павету, якую падаем з захаваннем моўных асаблівасцей арыгінала:

„У нашым мястэчку Ліпску было дзіўнае здарэнне. Адна гаспадарская дружына набралася конскай каросты. Скрываючыся са стыду перад суседзямі і не парадзіўшыся лекара сама гаспадыня вымазала мужыка конскім лекарствам і для распаркі усадзіла яго ў печ, талкуючы сабе, што раз лекарства ад конскай каросты, то мусіць быць памоцна і для чалавека. Хворы муж ад страшнай грыжы пачаў раўсці як улезшы ў залезную пастку звер. Збегліся суседзі ратаваць, але ужо было прыпозна, бо конскае лекарства спаліла хвораму нырке, ад чаго ён страшэнна спух і ў тыдзень памёр!

Места і гаспадары тут заможныя, але не хочуць доктара і ад пастаронных дактароў старанняць...“

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ЛЮБОЎНАЯ




*Плывэ чолон воды полон,*
*на хвалі хібнувся.*
*Дэсь поіхав мой міленькі,*
*бодай ны звырнувся,*
*дэсь поіхав мой міленькі,*
*бодай ны звырнувся.*
*Глыбокіе колодецы,*
*короткіе ключы —*
*ны раз ны два заплакала*
*од мамонькі ідучы,*
*ны раз ны два заплакала*
*од мамонькі ідучы.*

*Ныма цвыту найліпшого*
*од маковчыного —*
*ныма роду найліпшого*
*од матёнчыного,*
*ныма роду найліпшого*
*од матёнчыного.*
*Ныма цвыту найгуршого*
*од осётового —*
*ныма роду найгуршого*
*од свыкорчыного,*
*ныма роду найгуршого*
*од свыкорчыного.*

Ад Ніны Пекуцін, 1933 года нараджэння, вёска Дашы гм. Кляшчэлі, запісаў у маі 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ГАДОЎЦЫ З ВОЙНАЎСКАЙ АКРУГІ

У вёсцы Войнаўка (гміна Дубічы Царкоўныя) ёсць новая злеўня малака, якую мясцовыя жыхары пабудавалі грамадскім чынам. Сюды прывозіць малако 157 дастаўцаў з Войнаўкі, Вярстка, Старыны, Бобінкі, Белай Стражы і хутароў, што каля гэтых вёсак. Разам збіраецца каля 2 000 літраў малака. На працягу трох апошніх гадоў у Войнаўцы і Вярстку значна павялічылася колькасць кароў. Найбольш малака прывозяць на пункт скупкі Васіль Казачук з хутара ў Белай Стражы, якую тутэйшыя жыхары называюць Дамбровай (50-60 літраў у суткі), Анатоль Анішчук і Сцяпан Маркевіч з Белай Стражы і Марыя Младзяноўская са Старыны (30-40 літраў).

Наведалі мы Васіля Казачука з Дамбровы. Засталі яго і яго жонку якраз пры даенні кароў. Калі яны ўхадзіліся з жывёлай, мы разгаварыліся. В. Казачук мае пяць дойных кароў і крыху маладняку. Гаспадарыць ён на васьмі гектарах зямлі. Мае ворнае поле, сенажаць, пасбішча і лес. Гадуе ўсяго пакрысе, бо ў гэтай закінутай сярод палёў і лугоў вёсцы далёка да гмінных цэнтраў і горада, дык інакш нельга. Сюды не будзе нават праведзены электрычны ток. А без яго цяжка весці гаспадарку па-сучаснаму.

Вяртаемся аднак да жывёлагадоўлі. Для кароў тут вялікая выгада. Выган пад бокам ды агульнае вясковае пасбішча. Лугі і сенажаці займаюць у яго амаль палавіну ўсіх зямельных угоддзяў. На зіму В. Казачук нарыхтоўвае сена і кармавыя расліны, бо вядома, што без кармавых буракоў ды бульбы не атрымаліся б высокія надоі малака. Працалюбівы селянін мае мураваны кароўнік. Малако штодзень возіць у войнаўскую злеўню дастаўшчык Казімеж Зазулінскі, які возіць малако звыш пяці гадоў. Дамброўскі гаспадар з зямлі таксама многа дае дзяржаве. Найбольш жыта і бульбы, бо гэтыя расліны тут добра родзяць.

**(Ц. Я.)**

**Весткі з Нараўскай гміны**

### ХТО НА ГЭТА АДКАЖА?

Столькі ўжо гадоў мінае, як з Нарвы ў Анцуты трэба ездзіць, робячы вялікі круг. З Гайнаўкі ў Беласток асфальтаваная дарога, а на гэтым адрэзку брук, які часта рамантуецца. Вось каб пабудаваць новую дарогу з Нарвы ў напрамку Анцут (дзе ўжо ляжыць асфальт) — у прамой лініі было б куды бліжэй! Хто адкажа на пытанне, чаму дагэтуль усе аўтобусы ПКС і ўсе іншыя самаходы і фурманкі вымушаны рабіць дадатковыя кіламетры? Чаму не пабудаваць дарогу, якая б значна наблізіла Нарву да Анцутаў і тым самым Гайнаўку да Беластока?

### УЖО ЁСЦЬ

У 24/1059 нумары „Нівы“ ад 13 чэрвеня 1976 года мы пісалі, што на аўтобусным прыпынку ПКС у цэнтры Нарвы няма будкі ці хаця б дашка для пасажыраў. І вось нараўчане ўжо дачакаліся зацішнай будкі. Пабудавалі яе побач кіёска „Рух“ і служыць яна ўсім: і моладзі, якая даязджае ў школу, і дарослым, якія ездзяць на працу.

**(ця)**

### ОЙ, ЯК ЖА ЧАС МЯНЯЕЦЦА!

**(Працяг са стар. 3)**

Пагаварылі сабе і далей спяшалі, каб як найбольш выкасіць і звязаць, пакуль добрае надвор'е. А аўтамашына далей сабе шпацыравала.

Праз нейкі час у канцы вёскі, дзе жыве Полік з Ганнаю, выйшлі на гасцінец дзве жанчыны, якія ў руках „пруцалі“ цяжкія клункі. Ішлі яны ў напрамку шашы. Полік да жонкі кажа: „Бачыш, ты нарыкаеш, што тяжко працуеш, а ім заробляты на хлеб, думаеш, лёгко? Воны мусят таксамэ намордоватысь, коб меты за шчо купыты йесты. То нэ той лодар, шчо самоходом йездыт і прыглядаецца, як другі трудяцца“.

„Бабы, давайтэ я вам помогу нэсты, бо віетэ аж попотыелі, двыгаючы багаж“, — сказаў Полік. „Просім, калі вы такі добры“, — згадзіліся жанчыны і аддалі яму па адной пачцы. Полік данёс пачкі да шашы і, атрымаўшы падзяку, вярнуўся да касы. Да жанчын з-за горкі пад'ехаў фіят, глытнуў іх і дадаў газу, што толькі пыл стаў стаўбом за ім. Шлюбныя пары здагадаліся, у чым справа і хутчэй пабеглі дамоў, каб праверыць, што згінула.

Цяпер Іван кажа Поліку, што хаця свайго дабра не памагаў несці, як ён, а Полік адгрызаецца, што гэта было дабро Івана, бо ў яго забралі ўсяго пару кап, пару штук іншай вопраткі і дзесяць тысяч злотых, а грошы насіць не цяжка.

**В. Петручук**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### УМЕЮЦЬ ІГРАЦЬ

У турніры на кубак Галоўнага праўлення ЗСМП, які быў разыграны ў Супраслі, агульная ўвага балельшчыкаў была накіравана на каманду Ц класа ЛЗС Тыкоцін. Хлопцы задзёрна і амбітна ігралі ад пачатку да канца.

Першы матч ЛЗС Міхалова — ЛЗС Тыкоцін закончыўся ўнічыю 1:1. Сітуацыя становіцца драматычнай. Суддзя дыктуе 11 метраў. Каманда будзе іграць далей. Пасля кароткага адпачынку іграе з ЛЗС Жулткі. Тыкацін іграе добра, без нерваў, але вынік 0:0. Паўтараецца папярэдняя справа, але цяпер агульны вынік на канцы 3:4 на карысць Тыкаціна.

Ідзе шторaз большы дождж. Хлопцы гадзінку адпачываюць і трэці раз выходзяць на пляц. Яны іграюць за першае месца і паўфінальны выезд у Лапы. Ужо ў першыя мінуты Хлюдзінскі здабывае гол. Тыкацін вядзе. З часам Супрасль узмацняе дысцыпліну, яны адпачыўшыя, і ў канцы выйгрывае Супрасль.

Але другое месца хлопцаў з Тыкаціна — гэта вялікае дасягненне. Апрача спамянутых у гэтай камандзе трэба назваць яшчэ Славаміра Пагажэльскага, Веслава Мсціваеўскага, Вітальда Бурачэўскага, Яўгенія Напюркоўскага, Вальдэмара Цёлка, Вайцеха Вішаватага (варатар), Станіслава Барчэўскага. Тыкацінскія хлопцы іграюць таксама ў секцыях настольнага тэніса і ў валейбол. Аднак у футболе найлепш. А турнір, аб якім мы пішам, доўга будуць помніць людзі ў Супраслі.

**(гай)**



*Каманда ЛЗС Тыкоцін.* Фота Янкі Цялушэцкага




*Быццам дзесьці на Беласточчыне працавала свайго часу настаўніца, якая на ўроку аб шкоднасці алкаголю для жывога арганізму рабіла дзецям такі эксперымент. Брала дзве шклянкі. У адну налівала ваду, у другую спірт. Потым вымала з каробкі доўгага чарвяка і па чарзе акунала яго то ў ваду, то ў спірт. У вадзе чарвяк віўся, круціўся, у спірце вокамгненна нерухавеў. Затым настаўніца пытала вучняў, якія з гэтага робяць вывады. Аднойчы адзін са школьнікаў устаў і сказаў: „З гэтага выходзіць, што трэба піць спірт, то ўсе чарвякі ў кішках паздыхаюць“.*

*Кажуць, што ад гэтага часу настаўніца больш такіх эксперыментаў не рабіла.*

Пачуў у цягніку Белавежа—Гайнаўка
**Пётр Байко**



## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## Happy End

Заказвалі: Аня і Галіна Ваўрэшук, Марыся Федарук, Ірэна Сухадола з Гайнаўкі, Святлана Новік, Галіна Ігнацюк, Галіна Міруць, Валя Зубрыцкая, Яўгеній Кардаш з Семяноўкі, Іяланта Карпач з Піражкоў, Галіна Ціванюк з Ціванюкоў, Аліна Грыгарчук, Марыя Карпюк з Агароднік, Люцына Базылюк, Ольга Карчэўская з Клейнік, Ева Антыхові́ч з Бельска і дзяўчаты з Тапчыкал.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астронку! Маёй маме прысніўся такі сон. Быццам яна апынулася ў курніку, дзе былі нашы кураняты, а між імі былі вялікія куры. Яна пачала іх выганяць ад куранят. І ўбачыла чорнага, вельмі худога каня і пачала на мяне крычаць, каб я яго заганяла. Я пачала заганяць, але ён завярнуўся і пабег у другі бок. Я вярнулася. Мама пачала крычаць, каб я бегла па каня, бо яго злавіў нейкі чалавек (сёння ўжо не жыве), але я не знайшла таго каня. Тады мама хацела мяне набіць, але не здужала, то пачала мяне кусаць. Першым месцам, у якое ўкусіла, была мая барада. Потым мама апынулася ў хаце. Я таксама была ў хаце ў апалячах. Мама пачала на мяне крычаць, што хлопец сядзіць у хаце, а я хаджу так апранутая. Бо ў хаце сядзеў хлопец, які да мяне часта прыходзіць. Яны пачалі на мяне крычаць, а ён нават мяне ўдарыў. Я была вельмі ўмурзаная. Гэта здарэнне адбылося ў старым месце, дзе мы гадоў дзесяць таму назад жылі.

Дарагі Астронку, мы з мамай вельмі цябе просім, адпішы нам. Бо мы баімося, што гэта штосьці вельмі кепскае.

Мажэна

**Мажэна!** Сон тваёй мамы цікавы, але нельга яго растлумачыць адназначна. Маці была ў курніку, у якім пачала выганяць вялікіх курэй ад куранят. Ці не адмовілася яна ад нейкай выгады толькі дзеля таго, каб у сям'і было добра, каб была яна задаволена?.. (Кураняты — задавальненне для сям'і, курыца — выгада, прыбытак). У сувязі з гэтым, бадай, чакае вашу маму нейкае нервовае патрасенне, а мо нават хвароба ці нейкая ўтрата (чорны, худы конь; яна вас кусала, а пасля біла).

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Зносячы супольную ўласнасць, суд дом з пляцам прыдзяліў Л., а другому супольнаму ўласніку Ф. прызнаў сплаты і права пажыццёвага карыстання з аднаго пакоя. Суд матываваў рашэнне тым, што сям'я Л. складаецца з яго жонкі і двух дачок, тады калі Ф. сям'і не мае. Праз два гады адна дачка Л. выйшла замуж і атрымала кааператыўную кватэру, а другая пераехала ў іншы горад і там атрымала працу. Таму адпалі матывы, на якіх дом прыдзелены Л. Ці можна патрабаваць аднаўлення судавядзення ў гэтай справе?

АДКАЗ: Калі дом нельга было падзяліць на дзве часткі, то суд змушаны быў прызнаць яго аднаму з супольных уласнікаў. Прыдзяленне дома Л., у якога была жонка і дзве дачкі, тады калі Ф. адзінокі — было абаснована, і рашэнне суда было правільнае. Новыя абставіны, якія ўзніклі пасля таго, калі справа правамоцна вырашана судом, не даюць асноў да змены рашэння суда і таму факт, што пасля рашэння суда дочкі адышлі ад Л., не мае ніякага значэння. Аднаўленне судавядзення дапушчальна ў абставінах, калі пасля заканчэння судовай справы знаходзяцца новыя факты або доказы, якія маглі б мець уплыў на вырашэнне справы, але зацікаўленым бокам былі невядомы. У данай справе няма новых фактаў і доказаў, якія былі б у часе вырашэння справы суду невядомы. Таму няма асноў для аднаўлення судавядзення.

## Кутох практычных ведаў





**НА ЗАЛАТУЮ ВОСЕНЬ**

Лета нас сёлета не надта распешчвала: пераважна ліў дождж. Даўся ён у знакі і вясковым людзям, і гараджанам. Застаецца яшчэ надзея на залатую восень.

На гэтую пару прапануем сёння элегантную сукенку з жакетам. Сукенка для жанчыны ў сярэднім узросце. Яна можа быць пашыта з шоўку або тоненькага бістору ў далікатны ўзор. Сукенка з доўгім рукавом, вельмі модным каўняром і скураным пояском у таліі. На бёдрах сукенка дапасавана вытачкамі, якія разыходзяцца ніжэй, пашыраючы спаднічку.

Такую сукенку ахвотна апране кожная жанчына. У халаднейшы дзень можна на сукенку адзець жакет (белы або ў адным з колераў сукенкі).

**Сяброўка**





## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, хадзіла я з хлопцам два гады. Геніка кахала і кахаю надалей. І думала, што з узаемнасцю. А ён пакінуў мяне. Пачалося ад таго, што не прыйшоў на спатканне. Здзівіла мяне гэта, бо ніколі такое не здаралася. Калі выпадкова спаткала яго на вуліцы, тлумачыўся, што не мог прыйсці, ды і размова ўжо неяк не клеілася. Пайшоў, не запрапанаваўшы спаткання. І больш ужо не прыйшоў. Мы жывем у малым мястэчку, і людзі гаварыць сталі, што пакінуў Генік мяне, ды да сяброўкі маёй заляцаецца. Я аднойчы спецыяльна зайшла да яе, каб даведацца, ці гэта праўда. Яна сказала, што сапраўды прапанаваў ёй спаткацца, але яна не згадзілася і хадзіць з ім не будзе. І вось нядаўна паехалі мы з сябрамі і сяброўкамі на забаву ў недалёкую вёску. Я адзелася як магла прыгажэй, бо спадзявалася, што і ён там можа быць. Так і было. Але не падыйшоў ён да мяне, ды нават не глянуў у мой бок. А якраз спаглядаў усё на сяброўку, потым узяў яе танцаваць. І яны гулялі, а я стаяла, ледзь стрымоўваючы слёзы. І ўрэшце выйшла з забавы. Ад таго часу мінула ўжо два месяцы. Не спаткалася ўжо больш з Генікам, але сяброўцы выгаварыла ўсё. Апраўдвалася, што не адбіла яна яго ад мяне. Гэта і праўда, ён парваў са мной раней. Але нашто гуляла з ім? Можа, каб яна адмовілася гуляць тады, ён бы падышоў да мяне... Чую вялікі жаль да яе. Бо ці ж так робіць сяброўка? А што ты, Сэрцайка, на гэта?

Галіна з Беласточчыны

Галіна! Жаль твой да сяброўкі беспадстаўны. Не будзе яна — будзе іншая. Калі прамінае каханне, рады на гэта няма. І хоць прыкра, вядома ж, траціцца, што здавалася найдаражэйшым — мусіш пагадзіцца і з гэтым. Рэдка каму гэта ў жыцці не здаралася. Можа яшчэ сустрэне цябе сапраўднае вялікае каханне.

**Сэрцайка**




Нарэшце, прыйшоў Казімір. Апранут у ваенную форму, на пятліцах па чатыры трохвугольнікі — старшына. Шчака са шрамам перавязана. Ён з апаскай абшарыў вачыма кватэру і толькі потым прывітаўся:

— Прывітанне! Даруйце, раней не мог. Так здарылася...

Яніна прашмыгнула на кухню.

Казімір нявінна пацікавіўся:

— Як адчуваеце сябе? Ці здаровы? Ці ўсё добра?

Нікольскі, бледны і спахмурнелы, няпэўна махнуў рукой:

— Вы што? У хованкі са мной гуляеце? Я прыходжу, а вы не думаеце з'яўляцца. У мяне ж таксама нервы не жалезныя.

Казімір збянтэжыўся, але адразу ж узяў сябе ў рукі і сказаў:

— У мяне для вас прыемная вестка. Я атрымаў паведамленне з Іванаўкі: сястра і пляменнікі жывыя і здаровыя. Нашы сябры дапамаглі ім прадуктамі і забяспечылі адзеннем.

„Нашы сябры, — злосна падумаў маёр. — Душыў бы іх голымі рукамі". Але Казімір сказаў:

— Вельмі ўдзячны вам і сябрам...

Казімір быў яўна задаволены. Ён заўсміхаўся і адразу ж перайшоў да справы:

— Спадзяюся, што напісалі тое, аб чым я прасіў?

Маёр зноў сярдзіта адказаў:

— Так, напісаў, але потым знішчыў. Вы думаеце, я кожны дзень гэта з сабой насіць буду? Мне мая галава таксама патрэбна...

Казімір разгублена зазначыў:

— Правільна зрабілі, але як жа быць? Я ж павінен мець доказы, што нездарма непакоюся аб вашай сям'і?

— Вам трэба зрабіць справаздачу? — удакладніў Нікольскі.

— Калі хочаце, так. І ў нашых агульных інтарэсах...

Маёр знайшоў у сваім пісьмовым стале чыстыя лісты паперы, паглядзеў на фатакартку сына, што вісела перад сталом на сцяне, і ўздыхнуў. Усё гэта Казімір растлумачыў па-свойму: цяжка чалавеку, але з-за сям'і ён ідзе на такую справу. Ён пайшоў на кухню і аб нечым доўга шаптаўся з Янінай, а Нікольскі пісаў.

Атрымаўшы данясенне, Казімір хутка прачытаў яго, тое-сёе ўдакладніў, падзякаваў і сказаў:

— Кожная дзелавая папера павінна быць падпісана. Лепш, калі падпішаце яе не сваім прозвішчам, а выбярэце сабе псеўданім, ведаць які будзем толькі мы ўдвух.

Маёр падумаў і выразна падпісаў: „Мацвей".

Казімір яшчэ раз растлумачыў „Мацвею", якія звесткі ён павінен здабываць, раіў, дзе і як захоўваць данясенні, і вызначыў умоўнасць на той выпадак, калі за інфармацыяй прыбудзе новы сувязны. Заканчваючы размову, ён зноў папярэдзіў:

— Аб нашай з вамі сувязі ведаць ніхто не павінен. Глядзіце не прагаварыцеся.

„Мацвей" кіўнуў у знак згоды і сказаў:

— Я рызыкую жыццём, зраблю для вас усё, што магу, але не ўпэўнен, ці выканаюць абяцанне немцы. Я павінен быць спакойны за сям'ю. Калі адчую, што гэта падман, заб'ю! Так і ведайце!

Апошнія словы маёр падмацаваў такім рашучым жэстам, што Казімір спалохана адхіснуўся.

З кватэры Казімір вышмыгнуў першым. Азіраючыся, прабраўся праходнымі дварамі на суседнюю вуліцу і доўга стаяў на трамвайным прыпынку — вывучаў абстаноўку. Нарэшце, вырашыўшы, што знаходзіцца ў бяспецы, зняў павязку з галавы, спакойна сеў у трамвай і даехаў да Курскага вакзала. Там, як заўсёды, мітусіўся народ. Большасць пасажыраў — ваенныя. Шмат параненых. Казімір агледзеўся, увайшоў у туалет і неўзабаве выйшаў адтуль зноў з павязкай на шчацэ, якая закрывала шрам, — відаць палічыў, што так больш бяспечна. Не спяшаючыся, ён сеў у прыгарадны поезд, даехаў да падмаскоўнага дачнага пасёлка Салтыкоўская, выйшаў з вагона, азірнуўся і смела пайшоў па вузкай бруднай вуліцы, за рынак.

— Значыць, тут ён не ўпершыню, — адзначылі супрацоўнікі назірання.

Ля невялікага прыземістага дома, які быў агароджаны высокім плотам, Казімір спыніўся, яшчэ раз азірнуўся і хутка ўвайшоў у брамку.

Назіранне працягвалася. Перад світаннем у кухонным акне доміка мільганула цьмянае святло. Дзесьці забрахалі сабакі.

Веснавы світанак надышоў хутка. Пасёлак ажыў. На вуліцах з'явіліся людзі. З дома выйшла маладая жанчына ў ватоўцы і з сумкай у руцэ, а за ёю — невядомы ў форме лейтэнанта. Яна пайшла ў хлебны магазін, а ён накіраваўся на платформу і сеў у поезд, які ішоў у Маскву.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Клуб у Трасцянцы

Клуб „Рух" у Трасцянцы знаходзіцца ў памяшканні пажарнай каманды. Клубоваю 11 год ужо працуе Оля Паўлючук. Оля стараецца, каб у клубе было чыста, каб была прыемная атмасфера. Тут можна купіць розныя газеты і часопісы, ёсць многа кніжак аб сельскай гаспадарцы і іншых. Ёсць напіткі.

Здавалася б, клуб у Трасцянцы як трэба і ўсё ў найлепшым парадку, каб не адно. Восенню і зімой тут так холадна, што, як сказала Оля, у мінулую зіму было халадней, чым на двары. Дзве печы, якія ёсць тут, былі напалены, але яны не давалі цяпла. Гэта ўсё таму, што сцены ў клубе не затрымліваюць цяпла. Тут патрэбны рамонт. Варта, каб падумаць аб гэтым і памагчы трасцянскаму клубу сустрэць новую зіму цёплымі сценамі.

**М. Лук'янюк**

## Для здароўя ў Дубяжыне

Доўга вялася пабудова цэнтра здароўя ў Дубяжыне. Пачаткі гэтай пабудовы памятаюць толькі старэйшыя жыхары вёскі. І вось у гэтым годзе будынак быў закончаны і здадзены ў карыстанне. У ім — аптэчны пункт, кватэра для лекара і розныя кабінеты.

Жыхары вёскі Дубяжын маюць свой уласны, сучасны цэнтр здароўя. Засталося толькі пажадаць, каб ён добра лячыў.

**Мікалай Няплоха**

## Добры гаспадар

...Янка Семяняка з Міклашэва. Ён жыве на хутары. Мае 12 га зямлі. Выкарыстоўвае кожны кусок зямлі для прадукцыі кармоў і збожжа. Аблягчае яму работу ўласны трактар.

Янка Семяняка з жонкай вядзе немалую гадоўлю. У іх конь, 4 каровы, 8 цялят, 15 авечак і 18 свіней. Трэба многа часу, каб усё добра дагледзець. Бацькі ўжо пажылыя, хворыя. Дома двое малых дзяцей. Усё гэта гаворыць, як многа трэба працаваць маладому гаспадару і яго жонцы. А яны плануюць яшчэ купіць машыны да трактара, пабудаваць новую абору і дом (гумно пабудавалі раней). Патрэбны крэдыт. І тут прыходзіць з дапамогай банк у Нараўцы. Янка Семяняка адкрыў тут рахунак. Добра выкарыстоўваецца зямля ў гэтай сям'і.

**Аляксандр Закройшчык**




### МАКСІМКА

*Сарамлівы з роду ўдаўся,*
*Усе і ўсіх дзяўчат цураўся,*
*За ўсе часы не змяніўся —*
*Вось таму й не ажаніўся.*
*Усё жыццё адзінокі,*
*Як аблуплены калок.*
*У Максімка-нябурака*
*Гаспадарка сяка-така,*
*Дагледжана абы-як:*
*Адзін ў полі не ваяк.*
*Тым ў нястачы апыніўся,*
*Хата села, хлеў зваліўся.*
*Сам Максімка — будзь здароў!*
*Ў зіму спаў каля кароў,*
*Ў стог зарыўшысь з галавою,*
*Суграваўся сам сабою.*
*Грамада аднак задбала,*
*З ласкі хату й хлеў прызнала —*
*Хата добра, спі хоць голы,*
*Каб не голад для жывёлы:*
*Каравы ўсю ноч рычаць,*
*Не даюць суседу спаць.*
*Ох, Максімка ты, Максім,*
*Ты ж бяльмом у вёсцы ўсім.*
*Сёння ж ўсе жывуць ў дастатку,*
*Адзін ты, Максімку, братку,*
*Хоць, здаецца, й не дурны,*
*Жывеш бы за паншчыны.*
*Раз ў жыцці ты абмыліўся —*
*Малады не ажаніўся.*
*За абмылку грубу гэту*
*Сёння ты папаў ў газету.*
*Абцяжаеш дзейнасць гміны,*
*Хоць ў сваёй бядзе сам вінен,*
*Бо не браў прыкладу з мас —*
*Жыць па-людску...*

**Дзядзька Квас**

## Сусед суседу...

Суседскую дапамогу ў працах на зямлі на тэрыторыі гміны Супрасль заініцыяваў малады гаспадар з Садовага Стоку Пётр Савіцкі ў 1973 годзе, які гаспадарыў тады разам з бацькамі. Такую дапамогу падтрымала і зацвердзіла гміна ў Супраслі. Узаемадапамога гаспадароў цяпер пашырылася. Гэта не толькі дапамога працай рук, але і абмен машынамі. Гаспадары, якія памагаюць адзін другому, хутчэй выконваюць сваю працу. Асабліва актыўнымі ў суседскай узаемадапамозе з'яўляюцца: Пётр Савіцкі з Садовага Стоку, які памагае гаспадарам гміны Супрасль, Васількаў і Чорнай Беластоцкай, Рышард Сталенчык з вёскі Цясна, Станіслаў Свірдовіч, сын Уладзіслава, з вёскі Каракулі, Чэслаў Сабалеўскі з Суражкоўкі, Ян Матавіцкі, Мікалай Панкевіч і Юры Стрыхальскі — апошнія тры з вёскі Агароднічкі.

У будучым годзе лік гаспадароў, якія маюць уласныя машыны і памагаюць імі іншым гаспадарам, напэўна павялічыцца на тэрыторыі гміны Супраслі. Такое супрацоўніцтва гаспадароў памагае ім хутка справіцца з працай у полі і на лугах.

**(гай)**

## Адзін дзень з солтысам

Адказную функцыю выконвае солтыс у вёсцы. Ён, падобна як дырэктар вялікага прадпрыемства, за ўсё адказвае. Час яго працы не знае ніякіх гадзін, ані нормаў. Людзі ў кожную пару дня і з рознымі справамі ідуць да солтыса. Вось аднойчы нядзеляй і мне давялося пабываць у солтыса вёскі Міклашэва, гміна Нараўка — Янкі Янушкевіча.

Ветлівы гэта чалавек, ведае сваю вёску. Мы пайшлі разам збіраць грошы на грамадскі фонд здароўя. Аказалася, што за адзін дзень немагчыма абыйсці ўсіх гаспадароў. Тут шмат людзей жыве на хутарах і трэба час ад часу прайсці 20 кіламетраў, каб дайсці да кожнай сялібы. А трэба ж увайсці ў дом, пагутарыць з чалавекам, часта выясніць справу. І вось гэта найважнейшае. Адзін з гаспадароў не хоча плаціць. Ён працуе на прадпрыемстве, мае гаспадарку і... нейкі дзеяч. Аж сорамна! Адмовіўся. Затое іншыя, часта старэнькія людзі, плацяць без ніякай дыскусіі. План грамадскага фонду здароўя выканалі поўнасцю такія гаспадары, як Аўгіння Богуш, Косця Панькоўскі, Янка Белабжэскі, Юрка Трусевіч і іншыя. Вось з такіх людзей і трэба браць прыклад. У адзін дзень вёска выканала 40 працэнтаў гадавога плана.

І тут вывад адносна працы і ролі солтыса ў вёсцы. Ён у гэты святочны дзень не толькі не адпачыў, але і выясніў многім людзям патрэбу грамадскага падыходу да справы. А такіх спраў ён мае шмат.

**Аляксандр Закройшчык**

## Нядбайнасць

Мястэчка Орля на Бельшчыне славіцца сваёй гісторыяй. Яшчэ і сення стаяць тут цікавыя муры сінагогі. Каля рэчкі добры млын. У зручным месцы гаспода. І, абы толькі грошы, можна напіцца так, што на руках вынесуць. Насупраць парку стаіць кіёск „Рух", дзе таргуе прыгожая прадаўшчыца Ірка, якая ветліва вітае кожнага наведвальніка.

Гэта ўсё добра ў Орлі. Але вось ёсць у Орлі і адмоўнае, што адразу кідаецца ў вочы: на ўсіх вуліцах, тратуарах тут вельмі многа гразі, таксама і ў парку. Усюды ляжаць конскія і кароўі адпады, але нікому не хочацца зрабіць парадку. І што на гэта бацькі мястэчка?

**П. Дубовіч**

## Расце будаўніцтва

Жыллёвае будаўніцтва ў Бельску ўсё развіваецца. Жыллёвы кааператыў у гэтым годзе перадаў сваім членам звыш 200 кватэр. Планам устаноўлена аддаць 245 кватэр. Усё сведчыць аб тым, што план будзе перавыкананы. Сваёй кватэры ў кааператыве чакае звыш 800 членаў. Калі ўлічыць яшчэ кандыдатаў, дык лік узрасце амаль да 2000. Пакуль што кватэры трэба чакаць 5-6 гадоў. Будаўніцтва вядзецца з прэфабрыкатаў. Галоўныя цэнтры яго канцэнтруюцца паміж вуліцамі Касцюшкі-Жэромскага і Міцкевіча-Пушкіна.

**Мікалай Няплоха**

## Няўжо немагчыма?

У 32 (1119) нумары „Нівы" ад 7 жніўня г.г. я прачытаў адказ цэнтральнай дырэкцыі ПКП у Варшаве на маю заметку „Дзе мой поезд?"

У сувязі з тым, што адказ быў вельмі агульны, хачу яшчэ раз вярнуцца да той жа справы.

Праўленне дырэкцыі піша, што змяніць распісанне цягнікоў так, каб было спалучэнне ў Чаромсе з Гайнаўкай (у $4^{45}$ з Любліна) і Седльцамі (з Бельска Падляшскага ў $15^{48}$ ) немагчыма, таму што паменшылася хуткасць паяздоў на лініі Седльцы—Чаромха—Семяноўка ў сярэднім да 30 км/гадз.

Разумею гэту прычыну вельмі добра і згаджаюся з тым, што немагчыма ўжо нічога зрабіць у выпадку ранняга спалучэння з Любліна ў Гайнаўку. Тут розніца 45 мінут (да таго цягнік Люблін—Беласток амаль кожны дзень спазняецца).

Што аднак датычыць другой справы, дык гэта ўжо дыскусія. Амаль кожны дзень бачу рух пасажырскіх цягнікоў на чаромхаўскай станцыі. І ўявіце сабе такі вобраз: прыходзіць цягнік з Гайнаўкі ў $15^{35}$. Пастаіць некалькі хвілін — і паімчаўся далей. Не паспеў па ім след астыць, як прыходзіць поезд з Беластока. Людзі толькі паглядаюць у бок свайго нядаўна адышоўшага поезда. І што рабіць? Трэба чакаць.

А ці сапраўды немагчыма нічога зрабіць для вылячэння такой сітуацыі? Думаю, што можна. Трэба толькі падумаць і хацець.

Цягнік, які нас цікавіць (г.зн. Семяноўка—Седльцы) заходзіць на станцыю назначэння ў $18^{28}$ і мае спалучэнне з Варшавай (у $18^{40}$ адыходзіць у Варшаву). Гэта вельмі важнае спалучэнне. Аднак трэба зразумець, што не менш важнае спалучэнне з Беластока ў напрамку Седлец пасля абеда. А тут з-за 13 мінут трэба чакаць каля дзвюх гадзін.

Пачаўся новы навучальны год, і шмат моладзі пачало даязджаць у школу ў Кляшчэлі і ў Бельск. Шмат людзей з ваколіц Нурца і Сямяціч даязджае на працу і вяртаецца дамоў у $15^{48}$ тым жа поездам. У папярэднім распісанні ўсё было добра. Толькі зараз вынікла гэтая праблема. Думаю, што трэба было б усебакова разгледзець яе і вырашыць на карысць грамадства. Ці ж чыгунка не з'яўляецца прадпрыемствам паслуговым?

І яшчэ адна справа, аб якой я не ўспомніў у папярэдняй публікацыі. Гэта вячэрняе спалучэнне Варшавы з Бельскам Падляшскім.

Паводле распісання цягнік з Варшавы прыходзіць у Чаромху ў $20^{58}$, а ў Бельск Падляшскі ад'язджае ў $20^{53}$. Толькі пяці мінут не хапае тут да спалучэння. Трэба сказаць, што гэта апошні поезд у Бельск ($20^{53}$). Калі ён „уцячэ", дык трэба ў Чаромсе чакаць да раніцы — да $4^{52}$. А ці гэту справу таксама немагчыма вырашыць?

**(ус)**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Бельску на вуліцы Чырвонай Арміі самаход падбіў 8-гадовага хлапчука, вучня другога класа, які раптоўна ўбег на сярэдзіну вуліцы. Паранены ў галаву, хлопчык ляжыць у бальніцы.

А на шашы з Бельска ў Бранск каля вёскі Шасталы здарыўся наступны выпадак. Машына тэхнічнага пагатоўя ПКС з Бельска „Шкода" цягнула папсаваны „Зіл". І трэба бядзе стацца, лопнуў кій, які спалучаў два самаходы. І тады шафёр „Шкоды" ўдарыў у фурманку, якая ехала насупраць. Жанчына з фурманкі паранена.

Таксама ў Бельску самаход „Стар" вымусіў першынства праезду ад веласіпеда. Пакалечаны веласіпедыст.

На дарозе каля Старога Яжэва ў гміне Тыкоцін „Запарожац" ехаў захутка, з'ехаў направа і ўдарыў пешахода. Пешаход загінуў на месцы.

На шашы Орля—Крывяцічы матацыкл „ВСК" з Кашалёў стукнуўся з матаролерам „Камар" з Орлі. У выніку гэтага пасажыр матаролера, перавезены ў бальніцу, памёр. А пасажыр матацыкла, цяжка паранены, ляжыць у бальніцы.

Таксама ў Беластоку здарыўся смяртэльны выпадак. „Аўтасан" наехаў на вуліцы М. Складоўскай на мужчыну каля 70 год, які памёр па дарозе ў бальніцу. Стары быў неасцярожны, улез проста пад аўтобус.

### ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

У ГС Нараўка добра выконваюцца заданні. Вялікі ўдзел у гэтым маюць людзі добрай работы. Многія з іх працуюць на месцы больш 25 год. Гэта: прадаўшчыца Марыя Смольская, пекары-браты Віснеўскія, Уладзімір Пацэвіч, у гастраноміі — Ніна Бальшакова і Аліна Камарэўская, у адміністрацыі — Разалія Станішэўская і Вольга Взёнтак, у сельскагаспадарчым абароце — Анна Кот, у паслугах — Ян Казёл. Людзі гэтыя з'яўляюцца ўзорам для ўсіх іншых працаўнікоў.

**А. З.**

### У ГАЙНАЎСКІМ ГС-е

Гайнаўскі ГС мае на вуліцы 1 Мая вялікі гаспадарчы млын. Мелюць тут гаспадары на восыпку, хлеб і булкі. Рух у млыне вялікі і прыносіць карысць ГС-у.

ГС павывешваў у будынку млына розныя інструкцыі, якія не маюць ніякага значэння. Між іншым, вісіць вельмі прыгожая супрацьпажарная інструкцыя. Яна вельмі добра павучае аб тым, што ў выпадку пажару трэба пазваніць у пажарную каманду, камісарыят МО і ў ГС, але не падае нумароў гэтых установ і адрасоў. Ці праўленне ГС лічыць, што кожны гэта павінен і так ведаць? Навошта ж тады інструкцыя?

Не дай бог пажару, бо гэта інструкцыя не паможа: трэба як найхутчэй папоўніць яе неабходнымі дадзенымі.

**Вірскі**

### САВЕЦКІЯ ГАЗЕТЫ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

Аддзел РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" у Бельску паведаміў у жніўні пастаянным чытачам савецкіх газет і часопісаў, што пачалася падпіска на наступны 1978 год.

У сувязі з гадавінай 60-годдзя СССР, аддзел плануе павялічыць лік чытачоў у бельскім раёне да 5300 асоб. У гэтым годзе іх 5246.

Сярод чытачоў савецкіх газет самым старэйшым з'яўляецца Уладзімір Храбаловіч — пенсіянер з Бельска. А сярод зборных падпісчыкаў першае месца заняў Агульнаадукацыйны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску. З савецкіх газет самымі папулярнымі з'яўляюцца „Піянер", „Падарожжа ў СССР", „Вясёлка". Пастаянным чытачом савецкай прэсы з'яўляецца і ваш карэспандэнт.

**Мікалай Няплоха**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „УВАГА, ДРЭВЫ!", „Ніва" № 13/1100 ад 27 сакавіка 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W MICHAŁOWIE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Uwaga, drzewa!" z 13/1100 numeru tygodnika „Niwa" wyjaśniam co następuje:

Rejon Dróg Publicznych w Białymstoku wysłał plan wycinki starych drzew przy drodze Michałowo-Hieronimowo, które zagrażały bezpieczeństwu drogowemu, do Obwodu Drogowego w Michałowie w dniu 31 maja 1977 roku. W wyniku konsultacji z Wojewódzkim Konserwatorem Przyrody wytypowano do wycinki 35 starych topoli. Wycięto je w lipcu bieżącego roku.

Nadmieniam, że uwagi zawarte w notatce prasowej były słuszne i pomogły nam w szybszej likwidacji problemu.

**Naczelnik Gminy**
**inż. Zenon Bezubik**

**Да публікацыі „РЭЧ ПАТРЭБНАЯ ДЛЯ ЎСІХ", „Ніва" № 27/1114 ад 3 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W DUBICZACH CERKIEWNYCH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 27/1114 tygodnika „Niwa" informujemy, że postulowana przez autora notatki budowa zastawki wodnej na rzece Orlance zostanie rozpatrzona przy współudziale pracowników Wojewódzkiego Zarządu Inwestycji Rolniczych Oddziału w Bielsku Podlaskim. Ewentualna jej budowa będzie zaplanowana w najbliższych latach.

Jednocześnie informujemy, że na rzece Orlance na terenie naszej gminy dotychczas nie wybudowano ani jednej zastawki. Natomiast w najbliższym czasie rozpocznie się budowę zastawki na rzece Orlance w pobliżu wsi Jelonka. Wspomniane przez autora cztery zastawki znajdują się nie na rzece Orlance a na kanale Koryciska, łączącym tę rzekę.

**St. instr. d/s melioracji**
**i łąkarstwa**
**W. Werszko**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# НАВАТАР

Дакладчык скончыў пад апладысменты залы. Пачалося абмеркаванне.

На трыбуну выходзілі выступаючыя: кожны трымаў перад вачамі паперку і старанна счытваў з яе тэкст. Чыталі пра дасягненні, пра перадавікоў і адстаючых, нават пра свае думкі.

— Развучыліся людзі гаварыць сваімі словамі, — раздражнёна сказаў Тарабараў суседу па крэслу. — Як ёсць развучыліся. Гадоў з дзесяць назад шчэ маглі. А цяпер якіх-небудзь дваццаць слоў з трыбуны сказаць — дык канспект пішуць.

— А чаго вы хочаце! — адгукнуўся сусед. — Мода, ліха на яе! Вунь, паглядзіце на бабку Хрысцю. Ніколі раней на шпаргалцы не выступала, а сёння не вытрымала.

— Некаторыя працаўнікі, — чытала з трыбуны гардэробшчыца бабка Хрысця, пабліскваючы шкельцамі акуляраў, — вельмі (паўза) няўважлівыя. Паліто здаюць, а пра (паўза) нумаркі забываюць. Ці ж гэта парадак?

— Ды не пішы ты, не пішы, — горача зашаптаў Тарабараў у вуха суседу. — Што ў цябе на сэрцы, што думаеш — тое й кажы? Ну, недзе памылішся. Ну, заікнешся. Ну, потам цябе крыху абдасць. Дык даруем жа! Не Цыцэрон ты, самі ведаем. Самі, мабыць, такія, як ты...

— Таварышы, не (паўза) забывайце браць нумаркі! — прачытала ў заключэнне бабка Хрысця і павольна пайшла са сцэны.

— Трэба канчаць, ой, трэба канчаць з гэтымі паперкамі, — не давядуць яны да дабра, — рэзюмаваў Тарабараў. — Першым падаю прыклад. Падрыхтаваўся ўжо. Вось толькі дойдзе да мяне чарга...

— Слова даецца таварышу Тарабараву, — абвясціў старшынствуючы.

Тарабараў паправіў гальштук, аднак выходзіць да трыбуны не збіраўся.

— Чаго сядзіш?! — засыкалі на яго з усіх бакоў. — Табе выступаць.

— А я — з месца, — з пачуццём уласнай годнасці адказаў Тарабараў. — Без паперкі. Сваімі словамі.

...У зале хвалююча загучала яго палкае слова, запісанае на партатыўны магнітафон, які ён урачыста трымаў ля грудзей.

**В. Гілевіч**



*— Не раві, я табе куплю аўтамат для мыцця посуду!*

# НІЎКА



*Так нараджаюцца раманы аб нашых не вельмі далёкіх продках.*

### ДАПАМАГАЮ БАЦЬКУ!

— Што ты, Пятрук, робіш? — пытае сусед, убачыўшы, як той, сагнуўшыся, панёс клунак з бацькоўскага панадворка.

— Дапамагаю бацьку! — адказаў Пятрук. — Ён свінню закалоў, а я хоць сала ды мяса перанясу дадому.

### КАРЦЁЖНІК

— Кажуць, ты навучыў сваю жонку гуляць у карты?

— Навучыў, і, ведаеш, добра зрабіў. У суботу я выйграў у яе палавіну сваёй зарплаты.

### КАБ ПЕРАКАНАЦЦА

— Кастусь, а чаму вы заўсёды праводзіце гасцей аж за парог?

— Каб пераканацца, што яны сапраўды пайшлі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Значыць, пане прафесар, вы нічым не маглі дапамагчы свайму калегу, што трапіў у рукі канібалаў?

— На жаль, нічым. Калі мы дабраліся да іх вёскі, яго ўжо выкрэслілі з меню.

✻

Ідзе на пенсію высокапастаўлены дзяржаўны чыноўнік, і ў сувязі з гэтым яго ўзнагароджваюць ганаровым медалем. Сябры і знаёмыя віншуюць яго з узнагародамі. Адна дама пытае:

— Скажыце, гер Хартман, што вы такое рабілі, калі ўдастоіліся такой высокай узнагароды?

— Нічога, мадам, але я рабіў гэта так доўга!

✻

Малады мяснік залюбаваўся нарачонай:

— Мэры, колькі ты важыш?

— Шэсцьдзесят кіло...

— Шэсцьдзесят — і адно кіло прыгажэй другога!

*Серэнада.*

### ВЯСЁЛАЯ ПРЫЧЫНА

У зубнога лекара.

— Чаму гэта вы так павесялелі, доктар? — пытае медсястра.

— Зараз увойдзе аўтаінспектар, які ўляпіў мне штраф.



**...Меў такое развітае пачуццё гумару, што смяяўся нават там, дзе іншыя плакалі.**

### БАЙКА ПРА КРЫТЫКУ

*Кату аднойчы мышаня*
*Крычала: — Дурань ты! Свіння!*
*Ты абібок, ты дармаед!*
*Ты хам, якіх не бачыў свет!*
*І так да позняе пары*
*Яно казала вельмі смела,*
*Бо кот — сядзеў каля нары,*
*А мышаня — ў нары сядзела.*
*І між людзьмі бывае так:*
*Крытыкаваць? О, ён — мастак!*
*Ды пераважна не на сходах,*
*А па кутках, па „Піва-водах".*
*Ёсць знізу крытыка й згары,*
*І ёсць, выходзіць, і з нары.*

**Паўло Глазавы**



ГУМАР З

### КУДЫ ПОЙДЗЕЦЕ?..

Заходзіць цыган да гаспадара ў хату, а гаспадыня пячэ пірагі.

— О, паласуемся зараз свежымі пірагамі! — сказаў цыган.

— Паласуемся, ды не ўсе, — адказаў гаспадар.

— А вы хіба некуды пойдзеце? — спытаў цыган.



*Нарэшце ўдача.*

*Па просьбе Анатоля і Уладка Нікалаюкоў з Канюкой змяшчаем песню*

## Hej, jasnowłosa

**słowa: M. Łebkowski, S. Werner**
**muzyka: Emil Sojka**

Już cię chciałem tamtej zimy,
chciałem cię zapytać o to,
gdy miasteczkiem przechodzimy,
czemu to za płotem
chowasz się.

Hej, jasnowłosa, jasnowłosa,
nie bądź płochliwa tak!
Piękny masz posag, jasnowłosa,
czy to ci czego brak?
Oczy jak lusterka,
nogi do oberka,
usta: czerwony mak!
Daj mi swój posag, jasnowłosa
powiedz: „Tak"!

Co ci z tego maskowania,
kiedy widać cię na milę,
bo ten płot cię nie zasłania,
tyle w nim sztachetek,
ile dziur.

Hej, jasnowłosa...

Dziś niedziela, przy niedzieli,
wyznam pewną tajemnicę,
że ten płotek nas nie dzieli,
przejdę tę granicę
jeszcze dziś!

Hej, jasnowłosa...

# КУРЁЗЫ

### ДАРАГАЯ ПАЕЗДКА

Член англійскага парламента лейбарыст Дж. Робертс падлічыў, што паездка ў лонданскім метро каштуе цяпер даражэй, чым падарожжа звышгукавым самалётам „Канкорд". За кожную мілю (1,6 кіламетра) палёту даводзіцца плаціць 16,6 пенса, а ў лонданскім метро такая ж адлегласць каштуе 22 пенсы.

### ФУТБАЛІСТЫ ПАД ЗАКЛАД

Прафесійная футбольная каманда клуба „Гановер-96" (ФРГ) выступае няўдала. Імкнучыся выправіць справы, старшыня клуба і ўладальнік гасцініцы Фердынанд Бок наймае дарагіх футбалістаў. Ён заплаціў, напрыклад, 450 тысяч марак адступнога клубу „Баверн Мюнхен" за тое, што той адпусціў форварда Вундэра. Вялікія затраты і няўдалыя гульні, якія выклікаюць змяншэнне збораў, прывялі да таго, што „Гановер-96" у даўгу, як у шаўку. Давялося шукаць мецэнатаў, гатовых раскашэліцца дзеля вырастання „футбольнага гонару" Гановера. На дапамогу прыйшло ўпраўленне гарадскіх ашчадных кас. Яно адкрыла крэдыт на суму 1,3 мільёна марак, прыняўшы пад заклад... саміх футбалістаў. Цяпер перад кожным матчам кіраўнікі ўпраўлення нервуюцца: не пакалечылі б каго-небудзь з закладзеных ігракоў — бо інваліды ў футболе нават пфенінга не каштуюць!

### АБ'ЯВА

Хто можа зраўнавацца з Матыльдай маёй! Тэлефон 29-99-99.

Анатоль Рас




**І згінаючыся ў дугу, асцерагайся перагнуць палку.**